
нумары: Перадз'ездаўская трыбуна

„Завяшчанне Гітлера“

Місія пана Робертсона

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 4 (517) ГОД XI 23 СТУДЗЕНЯ 1966 г. ЦАНА 60 гр.

## БЕЗ АГЛЯДАК НА ЎЛАДЫ



Кіраўнік скупаўскай школы Язэп Навіцкі (злева) гэта вядомы мясцовы грамадскі дзеяч. Многа добрага зрабіў ён для моладзі ў Скупаве. Побач — яго малодшы сябра, настаўнік Янка Раманчук, член скупаўскага гуртка ЗМВ. Моладзь у Скупаве спадзяецца ад яго дапамогі ў сваёй дзейнасці.

У Гайнаўскім павятовым праўленні ЗМВ параілі ехаць у Скупава.

Шаша вядзе з Гайнаўкі ў Нараўку. Вёска ад шашы недалёка. За туманамі снегу яе хаты напамінаюць малюнкі з казак. І сапраўды ў гісторыі Скупава шмат казачных элементаў, але казка гэтая трагічная, няма ў ёй нічога цудоўнага. Хіба толькі людзі і іх нязломная воля.

Гітлераўцы пабаяліся, што прыпушчанская вёска можа быць моцнай апорай і карміліцай для партызан. Яшчэ ў жніўні 1941 года зверскі выгналі ўсіх жыхараў Скупава з сяліб, у якіх сядзелі ад дзеда-прадзеда, і вёску зраўнялі з зямлёй, нават следу не пакінулі.

Вёска цяпер жыве нармальна. Яе гісторыю, на добры лад, лічыць трэба гадамі народнай улады ў Польшчы. Мае ўласную краму, школу, клуб, брукаваныя вуліцы.

Вядома, што ніхто ўсяго гэтага не даў скупаўцам у падарунку. Шукаю тады будаўнікоў скупаўскай рэчаіснасці. Што іх цяпер хвалюе, за што змагаюцца? Мне апавядаюць:

Мар'я Навіцкая, настаўніца:

— А так, моладзі тут многа, маюць свой гурток ЗМВ, часта збіраюцца ў школе і раяць аб чымсьці. Вось на днях абсталявалі клуб-кавярню.

Валя Семянюк, гаспадыня:

— Я ўжо замужняя, двое дзяцей маю, куды ж мне да моладзі! У гурток вясковых гаспадынь запісалася. Скарбнікам мяне выбралі. У нашым гуртку 26 жанчын. Старшынёю з'ўляецца Валя Янцэвіч. Два гады таму назад наладзілі мы курс гатавання і пячэння. А раней яшчэ — курс крою і шыцця. Праводзілі конкурсы хову курэй і загаспадаравання агародчыкаў. У лютым або ў сакавіку г.г. наладзім курс рыхтавання мясных прадуктаў.

Іду вуліцай вёскі. Тут некалькі вуліц. Скупава распаўзлося на пасёлкі і хутары. Разам каля 150-ці гаспадароў. Мяцеліца крыху супакоілася. У шум ветру і лесу ўрэзваецца звонкі енк пілы. Міхаіл Адамовіч рыхтуе дровы на свята пры дапамозе... электрычнай крайзэгі. Факт здаваўся б малазначны, але ён наглядна паказвае новае ў жыцці і звычаях нашых сялян.

— А навошта мне мучыцца? Маторчыкам хутчэй і выгадней. Толькі ён, халера, слабенькі, — паказвае Адамовіч свайго «парабка». — Але дроў насячы, сечкі нарэзаць або вотруб'я намалоць можна. Іншыя гаспадары ў нашай вёсцы маюць рухавікі шмат мацнейшыя. Але для іх трэба закладаць сілавую электралінію, а гэта каштуе даволі дорага.



Навошта мучыцца ўручную, калі дровы можна рыхтаваць карыстаючыся электрычнай пілой. Прынамсі так мяркуе Міхаіл Адамовіч са Скупава.

У яго ў хаце сустракаю маладога настаўніка Янку Раманчука.

— Так, я з'яўляюся членам тутэйшага гуртка ЗМВ. Але працую ў Скупаве толькі ад верасня 1965 года.



Вёска Скупава ў Гайнаўскім павеце.



Старшыня праўлення скупаўскага гуртка ЗМВ. Яўгеній Янцэвіч цешыцца, што пад каляды ўдалося ім абсталяваць у вёсцы клуб.

Яшчэ не паспеў добра закараніцца. Моладзі тут многа, асабліва дзяўчат. На аснове таго, што паспеў заўважыць, выдаецца мне, што няма каму добра пакіраваць тутэйшай моладдзю. Даўней, як апавядаюць, дзейнічаў у Скупаве вельмі слаўны на цэлы павет гурток мастацкай самадзейнасці, якім кіраваў Язэп Навіцкі, загадчык тутэйшай школы. Але ў яго поўна другіх грамадскіх абавязкаў. Усяго сам ён не зможа. На шчасце маем цяпер энергічнага старшыню Яўгенія Янцэвіча. Ён нядаўна вярнуўся з войска.

Дык варта і яго паслухаць:

— Старшынёю скупаўскага гуртка ЗМВ выбралі мяне нядаўна, усяго ледзь тры месяцы таму назад. Гурток наш налічвае 28 даволі актыўных членаў, бо з мёртвымі душамі будзе многа больш.

Найгорш было з тым, што моладзь не мела ніякага куточка, дзе магла б збірацца, хаця б на вечарынкі. Вёска калісьці купіла тэлевізар. Паставілі яго ў школе. Прыходзіла многа людзей паглядзець, што дзеецца на свеце.

— Запішыце, што палавіну патрэбных на тэлевізар грошай, — прыпамінае кіраўнік школы, — сабралі жыхары Скупава, а моладзь і школьнікі нават хадзілі на заработкі ў лес, збіралі шышкі, грыбы і макулятуру.

— Асветныя ўлады крыва глядзяць, калі школу пераўтвараюць у святліцу, — гаворыць Жэня Янцэвіч. — Рашылі мы абсталяваць уласны вясковы клуб, дзе можна было б газету праглядзець, з дзяўчынай пагаварыць, кавы напіцца. Проста пазайздросцілі іншым. Але ў нас не было будынка. Вынайшлі тады звычайную вясковую хату. Прэзідыум у Нараўцы згадзіўся плаціць кватэрную плату, а з ГС-ам дагаварыліся, што неяк яе загаспадаруе. Найперш аднак трэба было прыстасаваць вясковую хату для патрэб клуба. А на гэта ў ніякіх улад не знайшлося ніводнай залатоўкі. Самі складаліся, купілі шпалеры і фарбы. Развалілі перагародкі, сцены аклеілі шпалерай, што трэба было намалявалі.

Старшыня замоўк і, прыпомніўшы штосьці, сказаў:

— Ведаеце, я ў нашым клубе не дакончыў яшчэ электрычнай інсталяцыі. Дык можа пойдзем?

Пайшлі. Сапраўды, невялікая вясковая хата, але ўнутры даволі прыемна. Столікі, табурэткі, за прылаўкам піражнае. Каву (збожжавую), пакуль што, прыйшлося пазычыць ад гаспадароў хаты.

— Рабілі ўсе даволі ахвотна і шчыра, — гаворыць старшыня, — але асабліва пахваліць трэба Нінку Падлашчык, Ірэнку Адамовіч і Данку Кісялеўскую. Сярод хлопцаў найбольш шчыра памагаў мне Анатоль Адамовіч. Афіцыйна наш клуб адкрыем у суботу 8 студзеня. Шкада толькі, што патанцаваць тут няма дзе. Мала месца. Але п'есу «Мараль Наталлі Зотавай» і тут можна вывучаць, прынамсі да часу, калі трэба будзе праводзіць рэпетыцыі на сцэне.

Гутарка зацягваецца. Ад спраў моладзі пераходзіць да спраў старэйшых, да сельскагаспадарчага гуртка, але пра гэта другім ужо разам. Пакідаў я герояў свайго рэпартажа з перакананнем, што ў Скупаве людзі ведаюць чаго хочуць ад жыцця. За кожнай дробяззю не азіраюцца на ўлады з павета ці з ваяводства.

ВІКТАР РУДЧЫК

Фота аўтара

# Імпрэсіі з роднай краіны

## Сон старога Бельска

Бельск — стары горад. Мае 900 год, 901 ужо. Некаторыя бельшчане вычыталі ў прафесараў, якія ў сваю чаргу паклікаюцца на верагодную легенду, што Бельску 1 000 год. З гэтага мае выйсці, што горад пачаў сваё жыццёбыццё ў гістарычным годзе Мешка І — 966. Прайшоў розныя каляіны лёсу і цяпер купаецца ў цішы сівой старасці.

1 000 (ці 900) год жыцця відаць на Бельску. Атмасфера сталасці і стабільнасці тут пануе. Спакойна. Пад бокам аднекуль вырасла прамысловая Гайнаўка, забрала частку павета. А Бельск як даўней, жыве з няведама чаго. Мо з базараў, слаўных, у кожны чацвер, калі да Бельска лепш не выбірайся. Усе дарогі, усе сродкі камунікацыі — непраходная джунгля. А калі ўжо спрасаваны даедзеш, не спрабуй вяртацца пасля полудня. Другога прасавання можаш, не прызвычаены, не вытрымаць.

Адзін стары бацька раіў сваёй дачцы вывучыцца за настаўніцу і застацца ў Бельску (сам з вёскі). «Школьны спакойны гарадок. Спакойна будзеш жыць». Стары бацька акрэсліў трапна Бельск. Школьны гарадок. Да другога слова патрыятычныя бельшчане могуць мець прэтэнзіі. (Насельніцтва Бельска ідзе ў тысячы). Але наогул стары бацька не памыліўся.

Бельск цяпер — сядзіба 6 сярэдніх школ: Беларускі ліцэй, Польскі ліцэй, Педагагічны ліцэй, Ліцэй сельскагаспадарчай бухгалтэрыі, Эканамічны тэхнікум, Ліцэй медсясцёр. Столькі школ і столькі вучняў горад не меў ніколі. Школьны горад. Некаторыя школы маюць сякія-такія інтэрнаты, але маса моладзі, якой большасць з па-за Бельска, жыве на традыцыйных «станцыях». І гэта таксама крыніца нейкага там даходу для бельшчан. Вясковае, часта старое сала, нярэдкасць у бельскім меню.

У Бельску два касцёлы, тры царквы, дзве сталовыя, з якіх у адной прадаюць гарэлку і яна забічкавана, у другой не прадаюць і яна забічкавана, бо мае 6 ці 7 столікаў. Няма чаго наракаць. Жыццё Бельска працякае традыцыйна па хатах.

ПСС адкрыў прыгожую, прыемна абсталяваную кавярню. Адзіная яна ў горадзе. Зрабіў гэта пад прэсіяй Прэзідыума ПРН, бо планаваўся на тым месцы малочны бар, якога ў горадзе няма.

Прыезжаму прыемна пасядзець за столікам, выпіць па прывычцы каву. Але, не цешся на вырост, прыезжы, Ты ў кавярні а гадзіне 15-ай. А ў Бельску існуе сярод пэўнай групы моладзі звычай ісці ў кавярню пазнаватым вечарам. Тады да кавы дабаўляецца каньячок ці іншы алкаголь (можа быць вінцо). Гэта прыцягвае людзей увечары і тады ў «ціхай кавярэнцы» не так ужо ціха. Падарожны можа толькі пашкадаваць, што так прыдатны (хоць коштам малочнага бару) прыбытак адкрыты ад гадзіны 14. У 11 хоць на галаве ставай, а зайсці няма куды.

Кіно «Зніч» вартае ўвагі з дзвюх прычын: было першай панарамай на Бельшчыне (пасля самога Беластока) і непарыўна ад даўніх год кіруе ім усё добра пан Шчэрбань.

Да кіно прычапіўся Дом культуры, на які нічога з бляску Зніча не падае. З гэтым Домам культуры ў Бельску былі розныя некультурныя справы. А і цяпер культуру ў ім цяжка знайсці. Халодны, няўтульны, незагаспадараваны, непапулярны. У адной высачэзнай велічэзнай зале стаіць побач пустых столікаў більярдны стол і адзіны ён можа разагрэць пару смелых. Кіраўніцтва з гонарам даносіць, што на більярд прыходзіць сам старшыня павятовага прэзідыума.

Дом культуры з'ядае грыб. Ніякія рамонты нічога не дадуць і няма чаго ў такім стане чакаць ад Дома культуры. На яго сцэне нават аднаразова не хоча выступаць Беластоцкі тэатр. Планы не новыя, прыстасаваныя да патрэб Дома культуры, вельмі мглістыя, хоць нібы рэальныя.

Хвіліна задумы напэўна прывядзе на думку пытанне: як у Бельску ў такой сітуацыі жыве і што робіць па-за навукай столькі школьнай моладзі? Рассыпалася яна сярод драўляных хат горада і згінула ў яго векавым сівым 1000-гадовым спакоі. А мо гэты спакой ёй служыць, у спакоі вучыцца і вучыцца. Мо таму так многа маладых людзей з бельскіх школ ідзе далей вучыцца, ідзе ў свет? Мо таму? А мо і таму, што стары спакойны Бельск ім за цесны і яны не бачаць для сябе тут перспектыў?

Будучы такім застаецца ён аднак усім выхадцам, да якіх і ніжэй падпісаная належыць, мілым сэрцу горадам. Мо якраз праз свой успомнены 1000-гадовы век, які пазваляе забыць пра нервы II паловы XX стагоддзя.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

P.S. Слова «бельскі» мае шырэйшае значэнне. Бо ж існуе Бельскі павет. Сельскагаспадарчы наскрозь. На яго палі і вёскі стары горад кідае свой галоўны удар. Мая наступная (і апошняя) карэспандэнцыя з падарожжа да 1000-гадовага горада будзе, ручаю, весялейшай і будзе аб Бельскім павеце.

В.Л.

## З ПРАЦ БЕЛАВЕЖСКАГА ПЛЕНЭРА



Эўгеніюш Габрыэльскі (Познань).

## ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК



Хата Афанасія Сцепанюка з Плюціч, Бельскага павета. Фота Ул. Юзвюк

**ШТО НОВАГА Ў ЛІТАРАТУРЫ?**




Не так даўно адзначалі мы з'яўленне на нашым выдавецкім рынку кніжкі вершаў Янкі Купалы ў перакладзе на польскую мову, а ўжо можам цешыцца новай, не менш важнай для нас, літаратурнай падзеяй: толькі што выйшаў у перакладзе на польскую мову зборнік вершаў Максіма Танка.

Прыемны зрух у зацікаўленні беларускай паэзіяй з боку нашых выдаўцаў. Трапны таксама выбар. Хто пасля Купалы мог лепш прадставіць беларускую паэзію ў нас, чым Танк? Гэта месца вызначыла яму і роля, якую ён адыгрывае ў беларускай паэзіі і яго папулярнасць у нашай краіне. Папулярнасць! Адносна паэтаў не заўсёды яна звязана са знаёмасцю іх творчасці. Проста, па той ці іншай прычыне, гаворыцца аб іх больш. Так у нас і з Танкам. Славіцца — і заслужана — вялікім нашым сябрам, але баюся, што многія вяжуць гэты факт пераважна з яго палітычнай дзейнасцю. Кніжка Танка многім падкажа іншыя, не менш істотныя, але больш канкрэтныя факты танкавай з намі дружбы — яго творчасць, прасякнутую ідэямі беларуска-польскага братэрства, правільна ў зборніку выбітымі

Але памыліцца той, хто падумае, што кніжка Танка завужана тэматычна. Дарэчы, каб сабраць усе вершы прысвечаныя Танкам Польшчы, выйшаў бы неблагі зборнік. Кніжка Танка называецца «На шляху дзікіх гусей». Назва, узятая з аднаіменнага танкавага верша з першага яго зборніка «На этапах», сімвалічна як бы адлюстроўвае пройдзеную дарогу паэтам. Гэта, перш за ўсё, песня аб роднай зямлі, наскрозь лірычная і беларуская.

«Шлях дзікіх гусей» вядзе нас праз усе этапы танкавай творчасці. Сустрэнем тут вершы з усіх яго зборнікаў. Гэта невялікая па сваім аб'ёме са смакам складзеная кніжка, з'яўляецца польскім «выбраным» Танка. Несумненна, з'яўляецца яна, як і купалаўская, немалой удачай складальніка — нястомнага перакладчыка і папулярызатара беларускай паэзіі — Багдана Жыраніка.

Што можна сказаць аб перакладах? Найважнейшае: нягледзячы на вялікую колькасць перакладчыкаў (аж 17 асоб), Танк застаўся Танкам. Асабліва хочацца выдзяліць пераклады Анны Каменскай, якой дасканала ўдалося перадаць не толькі змест, але і структуру танкавых вершаў. Асабліва яе майстэрства відаць у перакладзе верша «Ляжаць пакошаныя травы».

На жаль, не ўсе перакладчыкі справіліся з задачай. Звернем увагу на найбольш яскравыя заганы. Вось у «Санеце» з 1933 г. Танк апісвае глухую ноч у сваёй астрожнай цэлі:

> Агні прадмесця дальняга датлелі,
> А казка серабрыцца на акне.

А вопытны перакладчык Леапольд Левін гэтыя радкі перадае так:

> Nieraz światełko przedmieścia zaświeci,
> A bajka w oknie bez przerwy bieleje.

Знік кантраст, на якім пабудаваны Танкаў верш і цэля стала не такой панурай.

Больш прыкрае недаразуменне здарылася К. А. Яворскаму ў перакладзе верша «Паслухайце, вясна ідзе».

Танк расказвае аб другой астрожнай ночы: таксама акно, за ім расцвіў бэз, які гарыць прывабным сінім агнём. Паэт затым піша:

> Я ціха разбудзіў другіх.
> Ад слёз сінелі вочы бэзам.

А ў перакладчыка:

> Zbudziłem cicho innych z snu...
> Od łez siniały oczy kwiatom.

Вобраз разбураны. Мокрыя вочы людзей, у якіх адбіваўся сіні бэз, счэзлі, і не вядома чаму перакладчык надзяліў вачыма кветкі.

Да хібаў таксама трэба аднесці змяшчэнне верша «След лыжаў у Татрах» пад годам 1943, у той час, калі гэты верш быў напісаны ў 1949. Вершы ў зборніку размешчана храналагічна, і таму можа гэты верш выклікаць у чытача здзіўленне: адкуль у гэтым годзе паэт з'явіўся ў Татрах? Ды і змест яго не з таго перыяду.

Аднак гэтыя хібы не могуць паменшыць вартасці зборніка. Ім можна і варта ганарыцца.

**Г. Валкавыцкі**

---

Maksym Tank — Na szlaku dzikich gęsi. PIW. 1965 r. str. 70 Cena 10 zł.

Панцеляймон Юр'еў

# Місія пана Робертсона

(Старонкі мінулага)

Канец васемнаццатага стагоддзя і пачатак дзевятнаццатага, нягледзячы на павевы французскай рэвалюцыі, адрозніваліся асаблівым распаўсюджваннем усялякіх забабонаў. Фабрыканты «цудаў», усялякай масці, раз'язджаючы па ўсёй Еўропе, нажывалі агромныя грошы, прыймаліся на прыдворную службу каранаванымі асобамі. Зрэшты, яны не адкрывалі, уласна кажучы, нічога новага. Ужо ў Егіпце, у часы вялікіх фараонаў, умелі паказваць пры дапамозе спецыяльных аптычных люстэркаў «цені продкаў», якія паказваліся жрацамі на беласнежных пясчанніках пірамід. У час Рамзеса другога егіпецкія жрацы шырока карысталіся праекцыйным ліхтаром. Зразумела, у таямніцу праекцыйнага ліхтара, у тыя часы, былі ўведзены толькі вярхоўныя жрацы.

Таямніца такой праекцыі была вядома і «магам» Усходу. Пры дапамозе праекцыйных апаратаў «магі» праводзілі цуды, пра якіх расказваюць «святыя» кніжкі індусаў, кітайскія летапісы, біблійскія паданні. Потым сакрэт праекцыйнага ліхтара быў страчаны на тысячагоддзі. У эпоху Іудзея мы, зрэшты, сустракаемся з расказам аб тым, як чараўніца з Эндора «выклікала», для цара Саула, «цень» прарока Самуіла. Цікава, што «цень» спачатку паявіўся ўніз галавою! Эндорская чараўніца відавочна памылкова ўставіла ў праекцыйны ліхтар адкрытку дагары нагамі!

Даволі добра сканструяваў сваю «праекцыйную скрынку», каля тысячы год таму назад, араб Ібн Аль Хальтам. Пасля яго застаўся рукапіс, які расказваў аб прыладзе вельмі падобнай да праекцыйнага ліхтара.

Езуіт Кірхнер у Рыме, у сярэдзіне семнаццатага стагоддзя, стварае прататып усялякіх аптычных прыладаў, якія служылі для паказвання лунаючых у паветры ангелаў, фігур «святых», якія клубяцца ў клубах пары і т.п. Ён напісаў кнігу «Выдатнае мастацтва святла і ценяў» у якой, між іншым, апісвае і складаную аптычную прыладу, якая служыць для дэманстрацыі ўсялякіх «чарадзейных» з'яў. Кірхнер быў, у прыватнасці, стваральнікам апаратуры, пры дапамозе якой рымская інквізіцыя падслухоўвала гутаркі верных, якія вяліся на кляштарных плошчах. Зроблены ім «мегаласкоп», пры дапамозе якога імітавалася з'яўленне «святых угоднікаў», да сённяшняга дня захоўваецца ў ватыканскім музеі. Цікава, што каталіцкага манаха, які пры дапамозе скрытага «праекцыйнага ліхтара» зачароўваў сваімі «цудамі» польскага караля Яна Сабескага, у рэзідэнцыі караля прыдворныя прасцякі западзрылі ў сувязях з... нячыстай сілаю. Нешчаслівага пасланніка Рыма ад смерці зберагла толькі паспешная інтэрвенцыя кракаўскага епіскапа!

У пачатку XIX стагоддзя ў гродзенскім кляштары манахі трапілі ў непакорнасць сваім духоўным уладам. Пад уплывам маладога паслушніка Яўсевія, увесь кляштар пагражаў з уніі перакінуцца ў «схізму». Становішча склалася вельмі сур'ёзным. Тут трэба ўспомніць, што незадоўга да гэтага, у гродзенскім кляштары, уніяцкімі манахамі былі зроблены першыя спробы лацінізацыі багаслужэння. У народзе пайшла пагалоска аб тым, што «лаціняне цэрквы пад Рым бяруць, і па-лацінску ўсё будзе».

Народ пачаў наракаць, ігумена кляштара веруючыя пабілі. Над кляштарам павісла пагроза.

У той час да базільянаў дайшла з Варшавы вестка, што там дзейнічае (цытуем даслоўна): «вялікі маг і чараўнік, духаў выклікацель і ада ўладар усіх сіл» — прыехаўшы ў Польшчу бельгіец Робертсон.

У Варшаву хутка выехалі прадстаўнікі кляштара.

Аб чым у Варшаве дагаварваліся высокія стораны і колькі кляштар заплаціў Робертсону за яго прыезд у Гродна, па сённяшні дзень застаецца невядомым. Фактам, аднак, з'яўляецца, што Робертсон згадзіўся, сваіх рук майстэрствам, заклікаць «невучонае мужычо» гродзенскай акругі да парадку і добра пастрашыць не толькі «сялянскую цемнату», але і славутых грамадзян Гродна.

Робертсон падарожнічаў са сваім «магічным» апаратам, гэта значыць вялікага размеру праекцыйным ліхтаром. Усялякія «духі» і «чорты» праектаваліся ім на клубы пары або белага дыму. Ад гэтага малюнкі прыходзілі ў рух і здавалася ўсё як быццам бы жывым. Удзельнікі начных сеансаў «фатосмагорыйных», якія Робертсон заўсёды наладжваў на могільніку, у пакоі, у якім на паліцах былі размешчаны чалавечыя чэрапы, а па вуглах зваленыя напалову спарахнелыя косці, дрыжэлі ад страху. У сваіх успамінах Робертсон, шчыра смеючыся, расказвае, як ён, на запрашэнне айцоў базільянаў, абдурыў веруючых. Яму ўдалося, у прыватнасці, прывесці ў паслухмянасць і паслушніка Яўсевія, якому паказалі «дух святога прарока Ільі», які прыказаў яму прасіць у ігумена прабачэння. Як апісвае Робертсон, айцы базільяны зрабілі з'яўленне «духа» даволі эфектна. У цёмным пакоі, які не меў акон, апоўначы, дурманячы прысутных кадзіламі і дымам бялявага колеру, выходным ад ахвярніка, праз невялічкую шчыліну (з суседняга пакоя) Робертсон, пры дапамозе свайго ліхтара, праекціраваў на клубы дыму постаць «прарока Ільі».

Яўсевій, убачыўшы «духа», упаў на калені і пачаў прасіць прабачэння. У страху ён, зразумела, не заўважыў, што «дух» гаварыў да яго не па-беларуску, а па-французску. Робертсон не ведаў ні рускай, ні польскай, ні беларускай мовы!

У Гродне Робертсон быў пяць дзён, — у гэтым тры дні ў кляштары. Якія толькі «цуды» не рабіліся ў гэтыя дні ў кляштары ўсесумленных айцоў базільянаў! З'яўленне «прарока Ільі» было паўторана гэтым разам, так сказаць «для шырокіх мас», у кляштарнай царкве. Не толькі жанчыны, але і мужчыны трацілі, калі паказваўся «дух», прытомнасць. У царкве пачалася павольная істэрыя. Святыя айцы, якія ведалі тайну, прыглядаліся з хораў да таго, што адбывалася, і ўпотай смяяліся над тым, як лёгка ім удалося адурманіць не толькі цёмнае беларускае сялянства, але і славутых гродзенскіх грамадзян.

Улады, аднак, не глядзелі на ўсё гэтае закрытымі вачыма. Хоць «цуды» засталіся не выяўленымі, Робертсону было прыказана як найхутчэй скласці свае чараўніцкія прылады і выехаць у кірунку да граніцы, таму што далейшае прабыванне яго на землях Беларусі было прызнана нежадаючым!

Сваю гродзенскую афёру Робертсон назваў «смешнымі прыгодамі на Белай Русі». Аб тым, колькі айцы базільяны заплацілі яму за прыезд у Гродна і як дапамаглі яму дурманіць ні ў чым не вінаватых, цёмных людзей, ён паслужліва замоўчвае.



«Фатосмагорыйный сеанс» Робертсона. Пры дапамозе сваіх прыладаў Робертсон паказваў у цёмнай зале поўнай кажаноў і чэрапаў усялякіх «чартаў», «духаў» і т.п.



Прымітыўны «праекцыйны ліхтар» часоў рымскага сярэдневякоўя. Выкарыстоўваўся манахамі для дэманстрацыі «смерці» чакаючай чарговай ахвяры. Оптыка яшчэ зусім прымітыўная!



У гродзенскім кляштары, па просьбе манахаў, Робертсон дэманстраваў з'яўленне... «святога прарока Ільі» і прывёў да паслухмянасці паслушніка Яўсевія.

## Абавязкавыя даставы

Паводле дадзеных Павятовай рады ў Бельску на дзень 30.XI. 1965 года абавязкавыя даставы рэалізавалася:

**Мяса.** План выносіў 2.402.703 кг. выканана 1.670.702 кг. Гаспадары атрымалі ульгі на 107.560 кг. З мінулых год залягае 4.951 гаспадароў, якія забавязаны даставіць 950.470 кг мяса.

**Збожжа.** План за 1965 г. выносіць 6.922.094 кг. Да пунктаў скупу дастаўлена 4.210.561 кг. Знялі гаспадарам план на 182.673 кг. Залегласць з мінулых год выносіць 2.213.520 кг. Залягае 4.199 гаспадароў.

Гэтая ж інфармацыя падае, што ў 1965 годзе адміністрацыйныя ўлады пакаралі 460 гаспадароў за невыкананне абавязкавых дастаў. ГРН разгледзілі 3634 прашэнні ў гэтай справе, з якіх прыхільна залатвілі 2446, а адмоўна 774.

(ак)

З ВОПЫТАЎ СУСЕДЗЯЎ

# Плуг-сеялка

Навагодні нумар «Сельскай гаспадаркі Беларусі» змяшчае цікавую інфармацыю аб новым глебаапрацоўчым агрэгаце, які спалучае ў адно плуг і сеялку. Агрэгат апрацавалі канструктары Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Яго прымяненне дае асабліва шматзначныя карысці на вялікіх участках зямлі. Аказваецца, што калі араць глебу трактарам з хуткасцю ў звыш сямі кіламетраў, скібы так распульхняцца, што няма патрэбы яе баранаваць ці культываваць. Можна адразу сеяць жыта, пшаніцу, ячмень, авёс ці іншыя зернявыя культуры. Гэта было вядома даўно, але дзеля гэтага патрэбная была спецыяльная машына. Шмат гадоў праводзіліся падрабязныя і ўсебаковыя доследы. Урэшце гэтакі агрэгат запраектавалі, пабудавалі і выпрактыкавалі ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Ён спалучае ў адно традыцыйны трактарны плуг з вядомай сеялкай. Плуг выконвае асноўную апрацоўку глебы і, дзякуючы вялікай хуткасці руху (8—10 км у гадзіну), рыхтуе яе к пасеву без патрэбы прымянення прылад перадпасяўной апрацоўкі. Рабочыя органы сеялкі ідуць следам шматлямехавага плуга і адразу ўводзяць зерне ў глебу. Трактар праходзіць толькі адзін раз. Гэта дае вялікую ашчаднасць. Ды не толькі. Трактар сваімі калёсамі не перамешвае без патрэбы ворыва і не ўмінае яго.

Вопытным агрэгатам «плуг-сеялка» праводзілі доследы ў гаспадарстве Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Заааралі і адначасова пасеялі расліны на плошчы ў 5,3 гектара. Ураджай павысіўся на 12%. Узяўшы яшчэ пад увагу шматзначнае скарачэнне часу патрэбнага на правядзенне сяўбы, гэты факт варожыць вялікую будучыню для новага глебаапрацоўчага агрэгата. Яго канструкцыяй павінны зацікавіцца нашыя ПГР-ы і спулдзельні прадукцыйныя. Прыдаўся б ён таксама сельскагаспадарчым гурткам, якія вядуць супольную апрацоўку зямлі. Тым больш, што кошт прадукцыі плуга-сеялкі, як сцвярджаюць канструктары, не перавышае агульных коштаў прадукцыі дагэтуль вядомых плуга і сеялкі паасобку.

(вр)

перад усім, дзяўчаты — і тыя спераду, і тыя ззаду, вясковыя — якія, пэўна, бачаць сябе ў такой ролі. Дзяўчаты — «мястовыя» і вясковыя — вельмі рана і канкрэтна думаюць аб сям'і. Дзяўчатам тыя маткі (жонкі!) на сярэдніх месцах яўяцца ўзорам кар'еры жыцця — узорам чагосьці такога, што можа быць іх мэтаю. Паўмэтамі ніхто не заварочвае сабе галавы. Кавалеры заўважаюць — не інакшай — гэтыя скрадлівыя позіркі дзяўчат, што таропяцца на фрызуры жонак-матак (маткажонак?), шыкоўнае адзенне, біжутэрыю. Кавалеры ведаюць, што дзяўчаты заглядаюцца ў перапынках гутаркі не толькі на жонак, але і мужоў — ловяць іх грымасы твару, шацуюць век, дагадваюцца наконт іх пасады паводле таго, як адзетыя гэтыя мужы, а асабліва, якія словы ўжываюць: зразумелыя ці незразумелыя (добра адзетым можа быць цяпер нават і стораж!).

Кавалеры ў душы злуюць на дзяўчат за іх позіркі-прымеркі і гэту злосць адчуваецца ўжо недзе на палове дарогі. Размовы перастаюць «клеіцца», звычайна з'яўляюцца жартаўнікі і жарты — розныя жарты: саладкавыя і саланаватыя. Жарты ажыўляюць цэлы аўтобус, шафёр таксама смяецца — цэлы аўтобус ад пераду да заду.

Жарты «клеяць» тое, што як бы расклейвалася. Але тады аўтобус Беласток — Крынкі спыняецца ў Падсакалдзе, Сакалдзе, Копнай Гары, потым у Трысцяным, Талькоўшчыне, Пачапку, Паўночным Востраве. Многія выходзяць, развітваюцца — расстаюцца.

У Сакалдзе вясковая баба пытае шафёра, колькі каштуе білет да Талькоўшчыны. Здавалася б, пытанне ў нічым не смешнае, але ўсе рагочуць з таго пытання, нават тыя ззаду — а мо нават галасней і даўжэй ад тых, што пасярэдзіне і наперадзе.

Ззаду аўтобуса непадзельна дамінуе пах сапрэлай бялізны, кажухоў, войлакаў. Горш адзетыя не любяць тырчэць на вачах усіх. Хтосьці там тайком курыць, хтосьці з кімсьці гутарыць — невыразна і балбатліва, і зусім не так, як наперадзе, дзе вымаўляюць кожнае слоўца з акцэнтам, прытворнай і зманераванай элаквенцыяй, і ўмузыкальненай мнагаслоўнасцю. Зад аўтобуса рэдка чуваць, хіба, калі хто п'яны спявае. Ззаду таксама глядзяць на сярэднія месцы, але глядзяць так, як глядзіцца з галёркі на шаноўную публіку ў тэатры. А наперадзе аўтобуса ўвесь час «прадстаўленне» — яснае і няяснае, часцей незразумелае чым зразумелае. І на рогат цэлага аўтобуса дае санкцыю, менавіта, яго сярэдзіна. Маладыя наперадзе задаволеныя, што сказалі нешта смешнае, дасціпнае — а старыя і маладыя ззаду задаволены, што можна параґатаць з тых наперадзе. Сярэдзіна смяецца для забавы, а зад рагоча — насмешліва рагоча з падштурхамі.

Мой паўстанак паяўляецца заўсёды неспадзявана, з-за вугла Тодаравага гумна ля шашы.

Ведаю навылет тое, аб чым будзем гаварыць у хаце пасля першых роспытаў і пачастунку, калі курым «фільтры» і палітыкуем, а маці калоціцца з гаршчкамі ля пліты. Бацька неадменна цвярдзіць, што ў горадзе жулікі ды дармаеды і ўвогуле пашто гарады на свеце... Маці неадменна зб'е бацьку спанталыку гаворачы, што я таксама ў горадзе, але, як вядома, не жулік. Маці дакорліва глядзіць на брата, які прасядзеў па два гады ў шостым і сёмым класе. Брат маўчыць, круціць музыку ў радыёпрыёмніку пад вазонам, а потым папросіць мяне — на старане! — каб купіў яму запасовыя часці да матацыкла ў каморы і павядзе да гумна рэзаць сечку. Задасць мне круціць сячкарню і скажа прытык: — Гімнастыка не пашкодзіць табе...

А, калі памакрэе мне кашуля, сам возьмецца круціць сячкарню, будзе круціць як шалёны аж кола забурчыць: сечка сыплецца навальніцаю. Будзе круціць і азірацца на мяне вачыма надта падобнымі да тых вачэй, што ззаду — на задніх месцах у цемнаватым аўтобусе Беласток — Крынкі.

КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ

## на шырокім свеце

# Дзяржава меншая ад павета

Нараджэнне новай дзяржавы найчасцей звязана з легендамі, геройскімі ўчынкамі, рэвалюцыйным уздымам мас. Аднак такая еўрапейская дзяржава, як княства Ліхтэнштэйн узнікла ў выніку гандлёвай транзакцыі. Было гэта так:

Краіна была тры разы выстаўлена на ліцытацыю. Першы раз у 1613 годзе. Занядбаныя маёнткі Вадуц і Шэленберг шукалі набыўцаў. Першы продаж закончыўся няўдачліва. Набыўца парваў кантракт, калі ў час праверкі аказалася, што не хапае пяці гармат, якія фігуравалі ў кантракце. Другі продаж адбыўся ў 1699 годзе. Князь, нейкі Йоган Адам Ліхтэнштэйн, марыў аб удзельным княстве. Таргаванне працягнулася, князь цаніўся літаральна за кожны грашак, аж нарэшце 13 студзеня 1719 года дайшло да фактычнай куплі за суму 290 тысяч гульдэнаў. Ліхтэнштэйн, як уласнік двух вялікіх маёнткаў Шэленберг і Вадуц, быў прызнаны ўдзельным князем. Акт прызнання падпісаў сам імператар.

Дзень 13 студзеня адзначаецца зараз як урачыстае дзяржаўнае свята Ліхтэнштэйна.

Праз некаторы час княства Ліхтэнштэйн мела ўласную армію, якая ніколі не была большай, чым 80 салдатаў. Армію ліквідавана ў 1868 годзе, апошні яе салдат памёр напярэдадні выбуху другой сусветнай вайны, у 1939 годзе. Яго фатаграфію прадаюць цяпер у кіёсках Вадуца, як цікавую турысцкую памятку.

— Хто пільнуе парадку?

Ад аўстрыйскай граніцы знаходзяцца швейцарскія стражнікі. У 1921 годзе, калі Аўстрыя — з якою княства знаходзілася ў непасрэднай уніі — пагрузілася ў фінансавым хаасе, княства звязалася тамажнай уніяй са Швейцарыяй. Цяпер ніхто не старажуе граніцы паміж Ліхтэнштэйнам і Швейцарыяй.

Ёсць свае жандары — 14 чалавек. Маюць яны амерыканскую паліцэйскую машыну і адзін матацыкл. Другі матацыкл, патрэбны для ганаровага эскорту ў час урачыстых уездаў князя да мястэчка — сталіцу называюць мястэчкам — адзін з жандараў пазычае ў суседзяў.

Не ўсе ведаюць аб тым, што Ліхтэнштэйн у параўнанні да сваёй плошчы з'яўляецца найбольш індустрыялізаванай краінай свету. Княства мае 157 квадратовых кіламетраў плошчы, 18 тысяч насельніцтва і... 40 фабрык. Але іх комінаў не відаць. Апрача фабрыкі катлоў, якая гандлюе з цэлым светам, другія фабрыкі падобныя на лабараторыі. Вырабляецца ў іх медыцынскія інструменты, штучныя зубы, іголкі, электрычную апаратуру, апаратуру для атамных рэактараў.

Ліхтэнштэйн і атамныя рэактары — крыху дзіўнае параўнанне, праўда? У феадальным княстве вырабляюць элементы тэхнікі 21-га веку!

У Ліхтэнштэйн ёсць чыгуначная станцыя Шаан. Яе начальнік грамадзянін Ліхтэнштэйна, з'яўляецца аўстрыйскімураднікам, бо станцыя ёсць уласнасцю Аўстрыі. Чыгунку пабудавана тут сто год таму назад, але княства не аплаціла рахунку за будову, бо будаўнікі чамусьці не дацягнулі чыгуначнай лініі да сталіцы — мястэчка Вадуц. Даўжыня чыгуначнай лініі на тэрыторыі княства — **восем** кіламетраў. Праз станцыю Шаан праходзіць поезд толькі адзін раз у суткі. Тым не менш, начальнік гэтай станцыі сваёю рангаю роўны начальніку станцыі ў сталіцы Аўстрыі, Вене, і атрымоўвае такую самую, высокую плату. Чаму? — бо ёсць начальнікам галоўнай станцыі ў дзяржаве — гэта значыць, у Ліхтэнштэйне!..

Калі ў міністэрствах фінансаў і банках Парыжа, Лондана ці Бруселі гавораць «Ліхтэнштэйн», нікому не прыходзіць на думку цудоўная прырода гэтай альпійскай краіны. Кожны думае пра шыльды. У Ліхтэнштэйн мноства шыльдаў усялякіх фірмаў, якія фактычна знаходзяцца ў другіх гарадах і краінах. Ліхтэнштэйн з'яўляецца дабрадзейным аазісам капіталістычнага свету; такой дзяржаваю, дзе плаціцца малюткія падаткі ад абаротаў. Фірма рэгіструе ў Ліхтэнштэйне сваю фікцыйную сядзібу, чапляе абы-дзе ў Вадуц сваю шыльду, а ўладам сваёй краіны паказвае хвігу: — Дулю вам, не пакажам нашых балансаў ані фінансавых кніг, бо наша цэнтраля знаходзіцца ў Ліхтэнштэйне і там плацім падаткі...

Гэты фрагмент гісторыі сучаснага капіталізму яшчэ ніхто не апісаў і не апіша. Джунглю цёмных інтарэсаў невядомых капіталаў заканадаўства Ліхтэнштэйна прыкрывае найлепшаю шырмаю: нічога не ведаем, нічога не бачылі... У Ліхтэнштэйне ніякая ўлада не цікавіцца ані тэлеграмамі, ані шыфраванымі нотамі, ані іх аўтарамі.

Мясцовыя людзі ведаюць, што гэта не дае ім славы. І крыху чырванеюць за падазроную славутасць Ліхтэнштэйна ў свеце вялікіх камбінатараў і цёмных бізнесменаў. Чырванеюць, бо нават самі яны нічога з усяго таго не карыстаюць. (а-ся)




## Сямейнае шчасце

Настрой дня ў многім залежыць ад таго, як пройдуць яго першыя мінуты.

Пазбягайце яскравых, раздражняючых колераў і, асабліва, папулярных чырвона - зялёных фланелевых халатаў, якія нават спакойнага чалавека спакушаюць да спрэчак і галаслівай размовы. Жанчыны ўсіх узростаў павінны старацца адзяваць светлую, ясную адзёжу.

Добрая, адпаведная адзёжа, асабліва раніцай спрыяе спакою ў хаце, стварае атмасферу ўзаемнай пашаны. Большасць пакінутых мужамі жонак хадзіла ў хаце ў нядбайным адзенні, непрычэсанымі, неахайнымі. Як жа на месцы тут пагаворка: «Пасей учынак — набудзеш прывычку. Пасей прывычку — набудзеш характар. Пасей характар — набудзеш лёс».

Добры муж заўсёды дапамагае жонцы. Прытым не забывайце, што хвартух — гэта не толькі патрэбная рэч, але і прадмет какецтва, неабходны жанчынам кожнага ўзросту, так як смачны і прыемна пададзены абед. Дарэчы, найбольш смачнымі бываюць абеды падрыхтаваныя супольна — жонкаю і мужам. (а-ся)

## МЯДЗВЕДЗЬ І ВЕРТАЛЁТ

Гэта адбылося на поўначы Краснаярскага краю. Верталёт »МІ—6» вылецеў у чарговы рэйс па груз рыбы, пакінутай рыбакамі ў бочках каля адной з рачулак.

Ва ўмоўленым месцы верталёт пачаў зніжацца, але зараз жа ўзняўся ўверх. Пасадцы перашкодзіў... мядзведзь, які стаяў на задніх лапах. Раскрыўшы зяпу, ён збіраўся ўступіць у адзінаборства з машынай. Тады экіпаж развярнуў верталёт і збіў драпежніка струменем паветра ад нясучага вінта. Гэта ўтаймавала ваяўнічы запал мядзведзя, і ён кінуўся ўцякаць. Калі верталёт знізіўся, выявілася, што мядзведзь паспеў спустошыць дзве бочкі з рыбай з пакінутых рыбакамі васьмі.



## ТАКСІ—АМФІБІЯ

Адна з англійскіх фірм выпусціла таксі, якое можа перасоўвацца па сушы і па вадзе. (ліў)



## Кракадзілавыя слёзы

У кракадзіла Джорджа, жыхара Чэстэрскага заапарка (Англія) разбаleліся зубы. Плачучаму ад болю пацыенту дактары далі лякарства і перавязалі яго. (ліў)

## Цікава

Калі Зямля мае год жыцця, то чалавецтва... 2 мінуты 22,3 секунды.

Пчала, каб сабраць 250 грамаў мёду, робіць 80 000 палётаў па 0,5 да 2 км кожны, дае гэта ў суме... 2 акружэнні Зямлі. (а-ліў)

## ЛІТОЎСКАЯ МОВА «ДАПАМАГАЕ» ЛЕПШ ПАЗНАЦЬ ХЕЦКУЮ

Электроннаму філолагу бліжэйшай будучыні будзе цяжка абысціся без сучаснай літоўскай мовы. Так лічыць вядомы лінгвіст Міхаіл Гельцэр, які працуе ў Вільнюсе.

Літоўская мова, расказвае ён, адносіцца да балтыйскай групы індаеўрапейскіх моваў і з'яўляецца з'явай выключнай. Яна захавала найбольшы лік старажытных рыс, і яе аналіз вельмі многа дае для параўнальнага гістарычнага мовазнаўства, для разумення, у прыватнасці, хецкай і іншых так званых «мёртвых» моваў. А без ведання апошніх, на думку вучонага, філалогія не зможа хутка развівацца.

## •аляксей карпюк•
# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

На краі лесу спыняемся. Перад намі дзядзька на пары коней арэ камяністае поле, дзве жанчыны тыцкаюць у баразну бульбу. Далей на ўзгорках таксама варушацца людзі, пястрыць вопратка жанчын, коні натужана цягнуць плугі. Блішчаць камені, памытыя дажджамі і асветленыя яскравым сонцам. Разглядаем, мяркуем. Мішу загадваем пад куст схаваць боты, рвём на ім кашулю, завязваем назад рукі, каб мог сам развязацца, кладзём у кішэню хлопцу наган.

— Чорт, мая форма можа выдаць, — сумняваецца Косця. — З Каўнян працуюць на чыгунцы, ведаюць яе!

— Ды ну-у! — супакойвае Кардаш. — У Гарадку стаяць часці украінскіх нацыяналістаў, у іх дакладна такія самыя мундзіры!

— Па-украінску ўмееце? — пытаю ў Косці.

— Звяжу пару слоў...

— Дык слухайце. Вы гаворыце толькі па-украінску. Я разумею адно па-нямецку. Сашка — чыстакроўны паляк і мой перакладчык. Не блытаць. Айда!

167

Вылазім на поле. Селянін арэ і прыкідваецца, што нас не заўважае. Кардаш перакладае мой загад:

— Кідай плуг, лодыр ты стары, запрагай воз, павязеш нас у Каўняны!

— Ах, пано-очкі, навошта вы яго бера-аце! — галосяць цёткі, кідаюць кошыкі.

Я — нібы глухі. Жанчыны падлятаюць да Кардаша:

— Пано-очку, харо-ошы, скажы свайму немцу, няхай хто другі, маладзейшы, вас вязе. Вунь колькі на полі коней! Мы адно прыехалі і пачынаем садзіць, людзі ўжо панасаджваліся!..

— Сціхніце, бабы! — шыкае на іх дзядзька. — Нічога са мной не здарыцца, праз гадзіну вярнуся! Вы гной разбівайце!

Цёткі не адстаюць ад Кардаша. Смешна, што гэтак лёгка прымаюць нас за немцаў. Гыркаю доўгую тыраду, ляпаю па прыкладу і яны адразу сціхаюць.

Нарэшце дзядзька запрог. Садзіцца трэба на голыя і аслізлыя ад гною дошкі. Загадваем пакласці зверху барану зубамі ўніз, з Косцем сядаем спераду. Кардаш мосціцца ззаду. Мішка, як прыстала «злоўленаму партызану», панура стаіць за возам, грэбае босай нагой пясок.

— Паехалі!

Дзядзька махае пугай, і воз кранаецца.

Мо ў лесе былі і немцы, толькі па свайму звычаю ішлі па дарожцы, перадаверыўшы брудную работу сялянам? Дзядзька павінен ведаць. Звяртаюся да яго праз Кардаша:

168

— З Крынак многа машын прыязджала на аблаву ноччу?

— Чатыры! — паказвае на пальцах.

Цямнее ў вачах.

— А з Бераставіцы — во! — дзядзька растапырвае мазолістую і заскарузлую пяцярню. — І з Саколкі...

Куды ж мы тады едзем да д'ябла? Немцы пасля аблавы ў Каўнянах якраз цяпер снедаюць! Іх мо там цэлы батальён, чаго промся ваўкам у зяпу? Агортвае трывога, не магу спакойна сядзець.

Тым часам пара адкормленых карых кабылак праз мяккую раллю дружна выцягвае воз на дарогу; кабылкі ўздыхаюць з палёгкай.

— Ңо-о! — жане іх фурман.

Воз затарахцеў. Насустрач цягнуцца фурманкі з гноем, плугамі, мяшкамі нарэзанай бульбы. Дзядзькі здалёк з'язджаюць з дарогі, чакаюць, пакуль праедзем. Загадваю Кардашу спытацца, ці застанем немцаў у Каўнянах.

— Заста-анеце, толькі мацней едзьце! — ахвотна раіць нейкі селянін.

— Ну, каб на вас! — фурман прэ кабылак яшчэ хутчэй.

Такое ўражанне, быццам добраахвотна коцімся з гары ў вогнішча. Зыркаю на камісара. Косцеў доўгі твар з прамым і тонкім носам выражае непарушны спакой. Вось ён чынна, нібы доктар, якога вязуць з мястэчка да хворага, палцягвае на каленях сінія, з кантамі ад прасавання, нагавіцы, збівае з абшлагоў пыл, прадзімае нос і паважна пераносіць позірк у поле. Няўжо не чуў, аб чым мы гаварылі з селяні-

169




МІКОЛА МАКАЕЎ

## Лісіца і пеўнікі

Пашрафілася зноў
Сававолніца Лісіца:
Трох курanят сцягнула са двара.
І справядлівы суд гаспадара
Як след бы пакараў збрадніцу.
Ды Пеўнікі
Знайшліся тут якраз
І за яе ўступіліся кагалам.
— Падумаеш.
Трох куранят украла!
Ды хто калі
Не памыляўся з нас?!
Няхай жыве.
Гадуе лісянятак!
Не дзенецца яна цяпер нідзе!..
І ў той жа дзень
На парукі
Была зладзейка ўзята.
І нават што!..
З тых Пеўнікаў адзін
З ёй на панадворку пагуляць рашыўся.
Ды ад яго
Праз нейкіх пяць хвілін
Адно ў паветры пух кружыўся.


Без слоў.

Славамір Мрожэк

## Пісьмо ў Швецыю

Паважаны пан Нобель!

Вельмі прашу даць мне Вашу Нобелеўскую прэмію. Просьбу сваю матывую ніжэй сказаным.

Я працую бухгалтарам у адной арцелі і як рахунковы работнік хачу выставіць на атрыманне прэміі некалькі кніг, а іменна: Прыходна - расходную кнігу, Касавую кнігу, Складскую і Галоўную кнігі.

Калі Вам захочацца спачатку прачытаць іх, дык я магу прыслаць адну або нават усе, але толькі на кароткі час і з умоваю вярнуць назад, таму што іншыя таксама хочуць чытаць, асабліва некаторыя рэвізоры. Я Вам, пан Нобель, шчыра скажу, яны так і рвуцца да гэтых кніг, таму лепш будзе, калі спачатку Вы скарыстаецё выпадак і прачытаеце іх.

Я думаю, што Вам гэтыя кніжкі спадабаюцца, таму што я ў іх шмат пішу з галавы. Узяць хоць бы Складскую кніжку. Надарвешся са смеху, сапраўдная сатыра, праўду Вам кажу. Я нават падумаў, каб у польскія пісьменнікі паступіць, бо ў адным часопісе прачытаў, што літаратурная фікцыя мае свае законы і не можа быць адарвана ад жыцця. Ды толькі ж не зразумеюць яны, сувязі ў іх няма з народам. А я Вам усё як на споведзі, бо Вы пэвед, ну і да таго ж прэмія.

Апрача таго, што многа там з галавы, вельмі ўсё там павучальнае, асабліва для тых маладых, што жыцця не ведаюць. Вельмі цікава. Два гады назад адзін рэвізор проста адарвацца не мог, хацеў нават пасля работы застацца і начытацца ўдосталь. Адарваўся толькі, калі я яму пяцьсот злотых паказаў. Чаго вам яшчэ больш?

Толькі я вельмі Вам раю паспяшацца, таму што мне ўжо хочуць за гэта штосьці даць, адно не ведаю колькі, але думаю, не менш некалькіх гадоў. Вельмі прашу прабачэння, што я так гэта, у апошнюю мінуту, не ведаў, што сёння рэвізія будзе. Чую, яны ўжо ў другім пакоі. Потым, можа, у Вас выпадку не будзе.

Хачу толькі сказаць, што я заўсёды любіў шведаў, а ксяндза Кардэцкага дык я б голымі рукамі задушыў, дарма што здароўе ў мяне слабаватае.

Алказ шліце на гэты адрас. У выпадку чаго, жонка перашле.

Да Вашых паслуг.

Бухгалтар

Пераклад з польскай


Без слоў.

### КАРА?

Жонка адкладае тыднёвік і кажа да мужа:

— Уяві сабе, у Амерыцы пасадзілі ў турму аднаго мужчыну, які меў чатыры жонкі.

— За кару, ці на адпачынак?

### НЕЛЬГА ВЕРЫЦЬ

— Вось зараз пайду да твайго таты і скажу яму, што ты мяне дражніш, — кажа малая Волечка.

— Можаш ісці, — усміхаецца Андрэйка, — мой тата табе не паверыць, бо ён заўсёды гаворыць, што бабам нельга верыць.

### ЗАЛІК ПА ХІМІІ

Прафесар: — Што абазначае формула $HNO_3$?

Студэнт: — Ну, гэта, як яго... Вось круціцца на языку...

Прафесар: — Хутчэй выплюньце! Гэта азотная кіслата.




Гіганцкімі крокамі можна рухацца і па кругу.

### МАГЧЫМА

Сцяпан едзе ў цягніку. Насупраць сядзіць нейкі чалавек. Незнаёмы звяртаецца да Сцяпана:

— Выбачайце, ваш твар мне знаёмы. Мы, здаецца, сустракаліся ў Лодзі?

— Ніколі ў жыцці не быў у Лодзі.

— Тады ў Беластоку.

— І там я ніколі не быў.

— Значыць, у іншым месцы.

— Гэта магчыма, — адказаў Сцяпан. — У іншых месцах я бываў.

### СІНОНІМ

Настаўнік пытаецца:

— Што такое сінонім?

Міхола адказвае:

— Сінонім — гэта слова, якое ўжываюць, калі не ведаюць, як напісаць правільна іншае.

### АБО АБО

Сям'я выехала за горад на прагулку. Бацька стаіць на высокім абрыве і любуецца прыродаю. Падыходзіць сын:

— Мама гаворыць, тут небяспечна стаяць. Альбо ці аддай нам сумку з прадуктамі.

### ЧАКАЛА МАШЫНЫ

— Ты чаго так доўга дамоў не ішла? — спытала маці ў шасцігадовай дзяўчынкі.

— Дык ты ж сама, мама, гаварыла, каб я не пераходзіла вуліцу, пакуль не пройдзе машына. Вось я і чакала, а машыны доўга не было, — адказала дзяўчынка.




Смелым ёсць толькі адна дарога — здабываць каркаломныя перашкоды.

*

Людзі, якія не вераць у слёзы, ніколі ў жыцці не плакалі.

*

Той, хто мае кароткую памяць, ніколі не забывае аб сабе.

*

Каб усе людскія рукі няслі сабе ўзаемную дапамогу — свет хутка адчуў бы вялікую льготу.

*

Пчолы, каб зімой мець мядовае жыццё, цэлае лета без нараканняў працуюць.

## УСЯЧЫНА


Усё людское нам не чужое.

Кур'ёзы

### Азмрочненая радасць

Італьянец Эміліо Надарыс з Генуі з радасцю паімчаўся на машыне ў паліцыю, атрымаўшы паведамленне аб тым, што знайшоўся ўкрадзены ў яго чамадан. Як жа ён быў засмучаны, калі, пакінуўшы ўчастак, убачыў, што яго аўтамабіль укралі.

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ірэны Зубрыцкай, Любы Раманчук і Ніны Пашкоўскай з Гайнаўскага павета, Ірэны Клепацкай з Лядаў, Гайнаўскага павета, Ноны Амброжэвіч з Грынявіч Вялікіх, Бельскага павета, Яна і Віктара Цыцульчыкаў з Луплянкі Старой, Беластоцкага павета, Якуба Сапежынскага і Сярожы Корха з Варшавы змяшчаем польскую песню п. з.:

## Czterdzieści kasztanów




*Rosną w lesie olcha, buk i klon,*
*sosen parasolki drżą.*
*Cień brzozowy jak zielony klosz,*
*a tu są kasztany o!*

*Czterdzieści kasztanów tu stoi pod rząd,*
*bo proszę panów aleje tu są.*
*Pod każdym ławeczka i nie ma dwu zdań:*
*„Miło tu siąść proszę pań".*

*A gdy obudzi wielkie piwonie*
*radosny zgiełk słonecznych trąb,*
*każdy zakocha się nieprzytomnie*
*w kimkolwiek bądź, jak niewiadomo kto!*

*Czterdzieści kasztanów przytuli ze sto*
*par zakochanych co wzdychać tu chcą.*
*Gdy westchną porządnie posypie się liść...*
*Oj mamo, ja chcę stąd iść!*